**Чытайце ў нумары:** За правільнае асвятленне гісторыі кампартыі Заходняй Беларусі · Рэпартаж Веры Леўчук з Прагі · Як знайсці хулігана

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 31 (440) | ГОД IX | 2 ЖНІЎНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.

## II УЗНАГАРОДА НАШАГА КОНКУРСА „ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ"




«Пакінутая Богам і забытая людзьмі», — так гаварылася аб маёй роднай вёсцы. Найгоршае бездарожжа ў цэлай аколіцы, кругом глуш і непраходная дрыгва. Гэта ўсё праўда.

20 год у жыцці адной вёскі — гэта не вялікі перыяд часу. А колькі змянілася, колькі ўвайшло новага, як перамяніліся людзі. Першыя крокі жыцця і яго суровае аблічча пазнаваў я ў Лапухоўцы. Цяпер можна сказаць, што гэтыя першыя вобразы родных мясцін былі амаль рамантычнымі. Пахла балотам, гнілой і дзікай травою, а цэлымі днямі пад саламянымі стрэхамі хат з крыкам пралятал і ключы дзікіх качак, гусей і другіх балотных птушак. Тут адбываўся птушыны «базар». З другога боку вёскі, як толькі заходзіла сонца, пачынаўся бясконцы аркестр жаб. Нават не мог ноччу адпачыць чалавек пасля цяжкай працы.

З захаду вёскі толькі вецер дзіка візжаў, падымаючы пад воблакі слупы пяску.

Суседзі гаварылі, што ў Лапухоўцы з усходу чорт гаворыць «добрай ночы», а з захаду ведзьмы спраўляюць вяселле.

На многіх хатах закватэраваліся «паны» буслы, а недалёка ад вёскі кожнае вышэйшае дрэва было ўсеяна варонімі гнёздамі. Апошнія знішчалі амаль 50% пасеваў яшчэ тады рэдка сеянай пшаніцы.

Навокал вёскі расла толькі дзе-недзе дзікая асака. Так плаціла прырода селяніну за яго цяжкую і жмудную працу.

А дарогі! Ой, дарогі! Кругом балота, ліпкая мазь і людзі топчуць па ёй цяжкімі гумовымі чунямі. Нідзе не было добрага маста, па якім можна было б смела і бяспечна праехаць, і рэдка ў каго быў воз, з якога ў дарозе не зляцела б кола. Гэта сапраўды быў добры воз. А ездзіць было трэба вельмі далёка. Вузенькія палоскі ляжалі нярэдка па 6 км і больш ад пахілай старой хаціны.

Кожны дзень паўтаралася адна гісторыя — цягні з балота карову або каня.

Кожны год цэлыя амаль сенажаці аказваліся пад вадою. Людзі, як мурашкі, выносілі кулямі мокрую траву на галаве на сухое месца. А яно знаходзілася за кіламетр і больш.

Гавораць, што цяпер не захацелі б насіць нават так пшаніцы, а тады — дзікую замуленую асаку. На полі нярэдка ляжалі аблогі.

Добрая ўраджайная зямля была нявыкарыстана, заквашана, на якой большасцю вырастаў асот, як плантацыя маку. Тут аб ураджаі з 1 га шкада нават успамінаць. Такой мазольнай працай сабранае збожжа людзі на млын вазілі толькі пад вялікія святы — Вялікдзень або Каляды. Пэўна спытаеце, чаму? Таму, што млын быў амаль за 30 кіламетраў — у Заблудаве. Звычайна збожжа малолі цэлымі начамі на жорнах. Жалі выключна толькі сярпом, а малаціць трэба было цэпам. Адразу пасля вайны ў вёсцы рэдка хто мог напісаць сваё прозвішча. Ка-

(Працяг на стар. 5)

## Дзень звычайны Міклашоў

Шукаць многа не трэба. Гаспадарская кемлівасць жыхароў вёскі Міклашы (Бельскі павет) відаць ужо на першы позірк. Набліжаемся вось да вёскі ад пасёлка Орля. Дарогу перасякае мосцік. Свежа навезены пясок і другія прызнакі паказваюць, што хтосьці зусім нядаўна будаваў гэты бетонны мосцік. Далей пачынаецца вясковая вуліца. Хацелася б сказаць, звычайная вясковая вуліца, але з грудзей выдаецца журботны ўздых: каб усе іншыя вясковыя вуліцы былі такімі звычайнымі, як міклашэўская! Пад нагамі роўненькі брук. Не пашкадавалі, відавочна, ні рук, ні часу жыхары Міклашоў дзеля сваёй выгады. Вуліцу ўпрыгожваюць рознага роду дрэўцы. Многа іх тут. Кожны дом у вёсцы ўпрыгожаны нейкай характэрнай расфарбоўкай вокан, акяніц або нарожнікаў. Проста чуе чалавек шчырую прыхільнасць да гэтых домікаў. Здаецца, што ў іх жывуць выключна добрыя людзі. Большасць дамоў памятае даваенны час, аднак даволі многа новенькіх, якія прыцягваюць вочы яркім колерам цэглы.

Дзядуля Бобер сядзіць на лавачцы і грэецца на сонцы. Яму ўжо 76 год.

— Ого-го... змянілася многа... многа ў Міклашах за маёй памяці і... скажу я вам, што змянілася на лепшае.

— То ж людзі кажуць, што за цара лепш жылося.

— Дурное кажуць! — злуецца дзядуля. — Хадзілі ў лапцях, малацілі цапамі. А цяпер вунь залажылі гэтае «кулка» дык дзяржава дала задарма малацілку.

— Задарма? Хіба за грошы з дзяржаўнага фонда развіцця сельскай гаспадаркі?

— Ці не ўсё роўна? Гаспадарам гэтая малацілка не каштавала ні залатоўкі. Ды якая яшчэ малацілка! Малоціць і адразу чысціць! У мяшкі сыплецца чыстае збожжа. Вось чаго людзі дажыліся! Канём араць, кажуць, цяпер цяжка, а за маёй маладосці браў чалавек пару валоў і нага за нагу пароў поле драўлянай сахой. І гэтых попелаў і соляў розных чалавек не знаў. Ураджай куды горшы быў! Але найважнейшае, сынок, гэта тое, што для вясковых доступ у горад адкрыўся. Вось у мяне было чатыры сыны. Што я з імі зрабіў бы, каб засталіся дома, як падзяліў бы гэтыя свае пяць гектараў поля? Дастаў бы кожны па кавалачку і шчырыў зубы з голаду. Цяпер толькі адзін застаўся на гаспадарцы. Трое пайшлі ў горад. Жывуць добра. Калісь гэтага, даражэнькі, не было, каб сялянскае дзіця вучоным стала. А цяпер... Вось у нас ёсць такая адна ўдава, мужа яе фашысты забілі, Марфа Авенка завецца...

— Муж мой працаваў да вайны ў арлянскай кафлярні, — гаворыць Марфа Авенка. — Неспакойны быў. Пастаянна кудысьці хадзіў, пераважна ноччу, да яго таксама прыходзілі нейкія людзі. Потым, ка-

(Працяг на стар.

## ГЛЫБОКАЯ, САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ

**На працягу апошніх дваццаці год пераскочылі мы ад лапцяў, капцілак і сахі да радыёпрыёмнікаў, электрычнасці і трактароў. Жыццё ў нас да таго змянілася, што каб нейкі прадзед змог устаць з магілы, доўга-доўга праціраў бы вочы, ды і працершы іх, не паверыў бы, што ён сярод аднавяскоўцаў. На вёску пайшла культура. Селянін хоча модна апрануцца — проста так, як гэта паказваюць журналы моды, хоча купіць матацыкл, слухаць радыё, глядзець тэлебачанне, чытаць кніжку ці газету, займацца спортам.**

**Жыць цяпер нядрэнна, хочам, каб было яшчэ лепш. Дарогу паказваюць пастановы IV З'езда Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі.**

**Свядомасць і прывычкі чалавека фармуюцца ад маленства — найглыбей у школьныя гады. Таму вось наша партыя асаблівую ўвагу пакладае на ўзровень і стан асветы ў нашай краіне. Партыя клапоціцца аб тым, каб навука ў школе была як найбольш цесна звязана з практычным жыццём, каб дзіця патрапіла прымяняць на практыцы здабытыя веды. Спецыялісты гэта называюць палітэхнізацыяй навучання. У новых праграмах навучання, апрацаваных для васьмігадовай пачатковай школы, шырока прадбачваецца прывіванне моладзі практычнага ўмення.**




**Панцеляймон Юр'еў: ЯШЧЭ ДА ПЫТАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ НА ПОЛЬСКІХ ЗЕМЛЯХ.**

**Вера Леўчук: АЛЕНІ СКОК.**

**Георгі Рабушаў: НАША ДРУЖБА.**

**Адоль Кастрыца: ЯКІЯ Ў НАС НАВІНЫ.**

**Уладзімір Гайдук: ПРАЎДЗІВАЕ ЗДАРЭННЕ.**



ПАСЛЯ ЖНІВА. Фота Ул. Паўлючук

# Фашызм у выданні Галдуатэра

Канвенцыя Рэспубліканскай партыі ЗША закончылася згодна з агульным прадбачаннем. Кандыдатам на прэзідэнта ад імя гэтай партыі стаўся адзін з найбольш кансерватыўных сенатараў, Бары Галдуатэр. Чаго аднак ніхто не змог прадбачыць, гэта атмасфера, у якой праходзіла канвенцыя рэспубліканаў. Прыпомніла яна вядомыя старэйшаму пакаленню гітлераўскія партэйтагі, якія адбываліся ў 30-х гадах у Мюнхене. У Сан-Францыска таксама дамінаваў шавінізм, расізм і ваяўнічасць, а Галдуатэр аказаўся ступрацэнтным спадчыннікам фашысцкай ідэалогіі.

Усё гэта кідае трывожны цень на сітуацыю ў Злучаных Штатах на чатыры месяцы перад выбарамі прэзідэнта. Сёння напэўна ведаем толькі тое, што ў выбарчай кампаніі змераюцца Галдуатэр і сучасны прэзідэнт Джонсан, які з'яўляецца прадстаўніком Дэмакратычнай партыі. Хто з іх будзе прэзідэнтам? Як месяц таму назад так і сёння большасць фактаў гаворыць за Джонсанам. Пералічым некалькі з іх.

Дэмакратычная партыя з'яўляецца традыцыйна партыяй большасці. На працягу апошніх 32 г. рэспубліканам толькі адзін раз удалося ўвясці свайго прэзідэнта. Быў ім Эйзенхауэр, постаць больш вядомая з часоў вайны, чым з палітычнай дзейнасці.

Далей трэба памятаць, што той прэзідэнт, які мае ўладу ў руках, заўсёды мае перавагу над праціўнікам. Рузвельт, Труман, ці Эйзенхауэр выбіраліся двухкратна. У выпадку Джонсана перавага з'яўляецца тым большай, што няма яшчэ года, як нясе абавязкі прэзідэнта пасля смерці Кенедзі і, таксама як забіты папярэднік, цешыцца папулярнасцю ў большай часткі грамадства.

Урэшце за Джонсанам гаворыць палепшаная трохі гаспадарчая сітуацыя і памяншэнне напружання ў міжнародных адносінах. У выніку новай падатковай палітыкі Джонсану ўдалося заваяваць сімпатыю вялікіх манаполій, якія павялічылі інвестыцыі ў краіне, дзякуючы чаму часткова стрымалі ўзрост беспрацоўя. За выключэннем бруднай вайны ў В'етнаме. ЗША не маюць таксама зараз — у адчуванні лібералаў — абцяжаранай міжнароднай іпатэкі.

Урэшце Джонсан можа лічыць на аднадумную падтрымку неграў, якім — прынамсі фармальна — запэўніў раўнапраўе, уводзячы ў жыццё закон аб грамадзянскіх правах.

У супрацьлегласці да Галдуатэра Джонсан прадстаўляе тып палітыка ўраўнаважанага, і ўсё паказвае на тое, што міма пэўных уступкаў на карысць рэакцыі, захоча разыграць выбарчую кампанію ў атмасферы спакою і стрыманасці. Праблема заключаецца аднак у тым, ці такая кампанія здолее захапіць прызвычаеных да шуму амерыканскіх выбаршчыкаў. Можа здарыцца, што многа прыхільнікаў Джонсана, бачачы яго спакой, не пойдзе проста да выбарчых урнаў. Такая магчымасць — гэта адзін з першых фактараў, якія ідуць на карысць крыкліваму Галдуатэру, які ўжо сёння не шкадуе сабе рэкламы.

На што яшчэ можа лічыць Галдуатэр і яго прыхільнікі?

Хіба, перад усім, на гэты растучы кансерватызм амерыканскага грамадства. Прыпомнім сабе, што ў апошніх некалькіх выбарах, каля 18 мільёнаў рашучых рэакцыянераў не бралі ўдзелу ў выбарах толькі таму, што праграмы ўсіх кандыдатаў здаваліся ім быць надта прагрэсіўнымі. Цяпер Галдуатэр і яго праграма дае гэтым сілам поўнае задавальненне, а тым самым і магчымасць прыняць удзел у выбарах. Няма сумнення, што гэтыя галасы будуць аддадзены на Галдуатэра.

Галдуатэр можа таксама лічыць на растучыя сярод штатавых палітыкаў незадавальненні з прычыны развіваючайся зараз цэнтралізацыі ўлады ў Вашынгтоне. Галдуатэр з'ядноўвае сабе штатавых правадыроў, упэўніваючы іх у тым, што пакіне за імі даўнейшую паўнату ўлады.

Плеяду прыхільнікаў Галдуатэра дапоўняць таксама ўсялякія абскуранты, якія прызвычаіліся да пастаяннага пратэсту.

Можа быць, што аднак гэтых грамадскіх груп не хопіць Галдуатэру да аднясення перамогі над Джонсанам. Сёння гэта пакуль яшчэ пэўнае. Але нельга аднак замыкаць вочы на самую з'яву нарастання рэакцыйных і фашызуючых тэндэнцый у амерыканскім грамадстве. З цягам часу могуць яны аказацца пагражальнымі незалежна ад таго, хто будзе прэзідэнтам краіны.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# ЛІПЕНЬСКАЕ СВЯТА



**Светкаванне Дня Адраджэння распачалося ў Беластоку ўрачыстым мітынгам ля помніка ўдзячнасці савецкім воінам.**

Калі 20 год таму назад звычайны рабочы друкар з Хэлма складаў радкі Маніфесту ПКВН, нават уявіць сабе не патрапіў, каб пасля так кароткага часу было ў нас зроблена многа больш, чымсьці прадбачваў гэты гістарычны Маніфест. Створана ў нас рэч бадай што найважнейшую ў жыцці чалавека — створана менавіта магчымасці роўнага старту для ўсіх грамадзян, незалежна ад таго, ці яны з сем'яў сялянскіх, інтэлігентаў або нейкіх іншых.

Урачыстасці 22 ліпеня ў Варшаве распачаліся ваенным парадам. У нашых руках, маглі мы пераканацца, магутная, самая сучасная зброя, пры дапамозе якой мы зможам даць рашучы адпор любому ворагу. Упершыню на ваенным парадзе паявіліся ў нас шматлікія ракеты рознага прызначэння.



**На эстрадзе ў Зверынецкім парку выступае калектыў Ваяводскага дома культуры «Курпе Зелёнэ».**



**Ідзе матч паміж камандамі Гродна і Беластока.**

Пасля ваеннага парада перад ганаровай трыбунай доўга, доўга ішла моладзь, амаль раўеснікі дзяржавы.

У Беластоку святочныя ўрачыстасці распачаліся папярэдняга дня ўрачыстым мітынгам ля помніка ўдзячнасці савецкім воінам. Мы не забываем, што свабоду прынеслі нам чырвонаармейцы. Вечарам адбылося ўрачыстае пасяджэнне ў тэатры, на якім прысутнічалі госці з Гродна.

На другі дзень «Дом кніжкі» і «Рух» наладзілі кірмаш кніжак спалучаны з кніжнай латарэяй. Пасля абеду ў Зверынецкім парку папісваліся сваімі ўмеласцямі аматарскія калектывы мастацкай самадзейнасці з Саколкі і Высока - Мазавецка, «Курпе Зелёнэ» і наш беларускі хор Галоўнага Праўлення БГКТ.

На спартыўным стадыёне ў той час праходзіў футбольны матч, які разыгрывалі зборныя каманды Гродна і Беластока. Вынікам 1:0 перамагла беластоцкая каманда. Вечарам у Зверынецкім парку да позняй ночы плыла танцавальная музыка.

Больш-менш падобна ліпеньскае свята праходзіла ва ўсіх гарадах і пасёлках Беласточчыны. Было ж гэта своеасаблівае, дваццатае, радаснае свята ўсяго народа.

Тэкст і фота **В. Рудчык**

## Спорт

## Алімпійская прэлюдыя

Кожны год, пачаўшы ад 1958 года, адбываюцца міжнародныя сустрэчы лёгкаатлетаў ЗША і СССР. Называюць іх «матчамі гігантаў». Сёлета гэта сустрэча закончылася сюрпрызам. У агульным ліку выйгралі амерыканцы 186:157. Амерыканцам удаўся рэванш за паражэнне ў мінулым годзе ў Маскве. Тады ў агульным ліку прайгралі амерыканцы розніцай аж 42 ачкоў. На паражэнне СССР склалася выключна слабая форма мужчынскага калектыву.

Апрача двух сусветных рэкордаў, якія пабілі Лёнг (ЗША) у кулі — 20,67 і шаставік Гансен (ЗША) — 5,28, паў трэці рэкорд: зацікаўлення публікі. На стадыёне «Калісеум» у Лос-Анжэлес першага дня глядзела матч 60 тысяч балельшчыкаў, а другога — 65 тысяч. Гэтага яшчэ ў Амерыцы не было. Таксама выбар «горада анёлаў» на месца сустрэчы быў не без значэння. Сем тыдняў потым адбудуцца на гэтым самым стадыёне другія перадалімпійскія адборачныя гульні лёгкаатлетаў ЗША, якія вырашаць, хто будзе прадстаўляць Амерыку ў Токіо.

Алімпійская прэлюдыя выпала на карысць ЗША. Гэта не значыць, што на Алімпійскім стадыёне СССР выступіць без шанцаў на перамогі. Два месяцы, якія засталіся да Гульняў, могуць зрабіць вельмі многа. Адносіцца гэта, зрэшты, да адных і другіх. У спорце здараюцца часта сюрпрызы. Прыкладам можа паслужыць паражэнне фенаменальнага прыгуна Томаса на Алімпіядзе ў Рыме. Зрэшты, навошта так далёка шукаць. У мінулым годзе на «матчы гігантаў» у Маскве алімпійскі чэмпіён Джонс прайграў з Міхайлавым.

Нягледзячы на паражэнне савецкі калектыў гэта ўсё ж першапланавы экстраклас і хіба — нягледзячы на ўсё — у Токіо ў канчатковым рахунку перавага будзе на баку «старога кантынента».

**Л. ТАРАСЕВІЧ**

Пад такім загалоўкам у органе ЦК КПСС «Камуніст», які выдаецца ў Маскве, надрукаваны нядаўна артыкул аб КПЗБ. Улічваючы вялікую вагу гэтай публікацыі для вывучэння гісторыі КПЗБ, а таксама прагнучы заспакоіць цікавасць сваіх чытачоў, мы вырашылі перадрукаваць артыкул поўнасцю. Будзе друкавацца ў адрэзках. Сёння змяшчаем першы.

# ЗА ПРАВІЛЬНАЕ АСВЯТЛЕННЕ ГІСТОРЫІ КАМПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

* * *

Створаная ў 1923 годзе, КПЗБ — састаўная частка Камуністычнай партыі Польшчы (КПП) — на працягу 15 год ішла ў авангардзе барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за іх сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне; яна выступала за самавызначэнне Заходняй Беларусі і ўз'яднанне з БССР, няўстанна абараняла інтарэсы рабочых, сялян і інтэлігенцыі. Гэта барацьба — яркая старонка гераічнай барацьбы беларускага народа супроць прыгнятальнікаў, за Савецкую ўладу, за сацыялізм і разам з тым — важны ўклад у міжнародны рэвалюцыйны рух, у рэвалюцыйны рух Польшчы, ва ўмацаванне пралетарскай салідарнасці польскіх і беларускіх працоўных.

У агні класавай барацьбы члены КПЗБ паказалі сябе стойкімі і адданымі барацьбітамі за справу марксізма - ленінізма, за народнае шчасце. Але ў 1938 годзе ў выніку парушэнняў рэвалюцыйнай законнасці і ленінскіх нормаў партыйнага жыцця, народжаных культам асобы Сталіна, супроць КПП было высунута хлуслівае абвінавачанне ў шырокім прасякненні ў рады яе кіруючага актыву варожай агентуры і рашэннем Выканкома Камінтэрна партыя была распушчана. Гэтае рашэнне распаўсюдзілася і на яе складовыя часткі: Кампартыю Заходняй Беларусі і Кампартыю Заходняй Украіны (КПЗУ).

У дні працы XX з'езда КПСС у «Праўдзе» было апублікавана заяўленне Цэнтральных Камітэтаў Камуністычных партый Савецкага Саюза, Балгарыі, Фінляндыі і Італіі разам з Польскай аб'яднанай рабочай партыі. У ім гаварылася, што абвінавачанне, высунутае супроць КПП і, значыць, супроць КПЗБ і КПЗУ, было сфабрыкавана правакатарамі, а роспуск яе быў неабгрунтаваны.

У гэтым заяўленні дадзена высокая ацэнка дзейнасці КПП: «Кампартыя Польшчы ў цяжкіх умовах фашысцкага тэрору кіравала барацьбой польскіх рабочых і сялян супроць прыгнёту капіталістаў і памешчыкаў за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных. Камуністычная партыя Польшчы ўспрыняла і працягвала слаўныя традыцыі супольнай рэвалюцыйнай барацьбы польскага і расійскага пралетарыята, паслядоўна стаяла на пазіцыях пралетарскага інтэрнацыяналізму, на пазіцыях цеснага супрацоўніцтва з брацкімі камуністычнымі і рабочымі партыямі, з міжнародным рэвалюцыйным рухам». Гэта ацэнка поўнасцю адносіцца да КПЗБ і КПЗУ — складовых частак КПП.

Такім чынам, добрае імя несправядліва зняслаўленых КПЗБ і КПЗУ і іх кіруючага актыву было адноўлена.

*

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, якая звергнула панаванне буржуазіі і памешчыкаў і якая ўстанавіла Савецкую ўладу ў Расіі, была актыўна падтрымана рабочымі і сялянамі Беларусі. У сярэдзіне лістапада 1917 года працоўныя пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ўстанавілі Савецкую ўладу на ўсёй тэрыторыі Беларусі, за выключэннем абласцей, акупаваных германскімі імперыялістамі (Брэсцкая, Гродзенская і частка Мінскай вобласці БССР). У лютым 1918 года імперыялістычная Германія, сарваўшы мірныя перагаворы ў Брэсце, пачала вайну супроць маладой Рэспублікі Саветаў; нямецкія імперыялісты захапілі Прыбалтыку, значную частку Украіны і амаль усю Беларусь. Толькі пасля выгнання нямецкіх акупантаў у Беларусі была адбудавана Савецкая ўлада.

Беларускі народ пры брацкай дапамозе вялікага рускага народа стварыў сваю нацыянальную савецкую сацыялістычную дзяржаву — БССР. З першых дзён Савецкая ўлада пачала праводзіць меры, накіраваныя на паляпшэнне жыццёвых умоў рабочых і сялянскай беднаты, ажыццяўляць сацыялістычныя пераўтварэнні. Фабрыкі, заводы, памешчыцкія землі былі аб'яўлены агульнанароднай уласнасцю. Рабочыя і сяляне Беларусі ўсямерна падтрымлівалі сваю родную Савецкую ўладу і ўсе яе мерапрыемствы. У шматлікіх пісьмах і тэлеграмах, пасыланых У. І. Леніну, яны выказвалі сваю радасць па прычыне ўстанаўлення Савецкай улады, выказвалі цвёрдую рашучасць абараняць яе ад замахаў міжнародных імперыялістаў і ўнутраных ворагаў. Напрыклад, сяляне Лучанскай воласці, Вілейскага ўезду, у сваім прывітанні Леніну ў снежні 1918 года пісалі: «... Мы, як адзін чалавек, будзем падтрымліваць Вас, сусветны правадыр пралетарыяту, і ўсю Камуністычную партыю бальшавікоў, абаронцу сялян і рабочых, да апошніх сіл нашых».

У 1919 — 1920 гадах буржуазна - памешчыцкая Польшча пры падтрымцы імперыялістаў Захаду захапіла заходнебеларускія землі. Па Рыжскім мірным дагаворы, заключаным у сакавіку 1921 года, да Польшчы адыйшла тэрыторыя цяперашніх Гродзенскай, Брэсцкай абласцей, а таксама паўночна-заходнія раёны Мінскай і Віцебскай абласцей — каля палавіны тэрыторыі Беларускай ССР. Апрача гэтага, у кастрычніку 1920 года буржуазная Польшча захапіла ў Літвы Вільна (Вільнюс) і частку яе ўсходніх зямель (Віленска - Трокскі і Свянцянскі паветы).

(Працяг на стар. 5)

БЕЛАВЕЖА
органлітаратурна-мастацкага
АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 67



УЛАДЗІМІР ГАЙДУК

## МАЯ КРАІНА

Вось мая краіна — шчыра гладзь!
Ні канца, ні краю не відаць.

У просіні веліч каміноў,
Ў спаборніцтве з вышынёй дубоў.

На шляхах дамоў бярозы цень
Сустракае кожны добры дзень.

Белая бяроза, не сумуй,
Трактары ўсе межы заараць.

Павуцінне праводоў уздоўж дарог
Эстафетаю слупы панеслі ток.

Залатая восень над сялом
Малацільным рэхам б'е у звон.

І працоўныя, абцёршы пот,
Аблічваюць сёлетні ўмалот;

І на хлеб хопіць і на каравай
Усім людзям — песенька, ўзлятай!

Грай, гармонік, ты настрою пан,
Хай гуляе ўвесь працоўны стан.

Песня звонкая — вясенні карагод,
Ганаруся я краінай дарагой.

Вось мая краіна — шчыра гладзь!
Ні канца, ні краю не відаць.

## СЕЛЯНІН

Яго ўзгадавала зямля,
Ўлоннем прамучанай глебы.
Краіне мужнага сына.
Спёка, мароз безупынна,
Вятры акраплялі спробы...

З шчырасці горкіх паклонаў
У сэрцы гарэлі раны —
Вастрынёй сытых насмешкі.
Помства адчайнаю сцежкай
Йшла адплаціцца паганым.

І ён ўставаў, як волат.
Сеяў пэўна хлеб галодным.
З паклонам да маці-зямлі,
Зярнят — ураджаем ўзыйшлі
І сонца ўпрашваў ён годна.

## КОШЫК

Панясу на дарог прагаліны
Поўны кошык прапахлы лесам
Грыбы баравыя, паджарыя
Сваім выглядам дзяцей цешаць.

Кожны грыб у казку мяняецца,
Толькі слухаць і ў голас марыць,
Гараць вочы, жар разгараецца.
Грыб і казка ходзяць у пары.

І таму ў час вячэрніх мяцеліц,
Як пасядзем ля цёплай печы,
Казкі з кошыка нам грыбы дзеляць —
Ах, як добра ў хаце, здаецца.

## ТАКАЯ ПЕСНЯ

Узорысты дыван лугоў,
Зялёны палацы дуброў,
А дзяўчына - русалка сноў
Над Нарвай. Гібкасць яе броў...

І збан крынічнае вады
Адбіўся ў праменнях кап'ё:
І пахнуць дурманам сляды
Аленяў, сарнаў і ласёў.

Тая песня жыла калісь,
А сёння з табою міла
Шукаем жывых кветак скрозь,
Так цудоўных, як дзевасіл...

На выгане коні іржуць,
Расу з травы збіраюць,
А ты расплятаеш касу,
Сонца — летнюю раніцу.

ЯША БУРШ

## ШЧАСЛІВЕЦ

Крокі былі рытмам
перарывалі даўжыню
чакання
укладаў рытмы
ў мазаіку пачуццяў
умеў асвойваць час
на карысць уцяшэнню
духоўна багацеў
умеў маўчаць
дзе слова брытваю
або
кроплямі на сон
а вочы люстрам
без душы
кантактуюцца
з замерам
умеў пазбавіць волі дзеяння
прысутнасць.

## ЧАРНАКОСАЯ

Прыйшла прывітаць
мае шэрыя вочы
постаццю стройнай
як выносная сасна
грудзі ўзняліся
як выспы мілосныя
на прасторах надзей
пад сукенкай румяняць
а
зайздросныя вусны
пальцы рупяцца
дэкольты зняць

Дзяўчына
нектар маладосці
на спадзістых плячах
уюцца чорныя ручаі
як рэйкі чыгункі
якіх канца не відаць
а смех як пальецца
дык як той вадаспад
стыхійны
бадзёры
мая красуня
дэманструе
трыумф жыцця

## ЗАГАРАННЕ

З сонца
нязгоршы спакуснік
людзей разбірае
як каханак
вопытная эрудытка
загараю
губляецца ў целах
як красамоўца
у патоку слоў

Мілосны акт
Сонца
з людзьмі
Пагода
бронзаю заручае

# ЯК ЗНАЙСЦІ ХУЛІГАНА!

Паклікаў мяне аднойчы галоўны рэдактар. «Слухай, Валодзя, — кажа, — чуў я, што ты застрахаваны ад смерці і няшчасных выпадкаў. Праўда гэта?» «Так, — кажу. — Абставіны прымусілі. Пакуль мы яшчэ адны з жонкаю жылі, можна было з бядою абысціся, хоць яна ў мяне і здаровая баба. Цяпер да нас аднак цёшча жыць прыехала, так што іншага выхаду мне не было».

«Галоўны» чамусьці ўцешыўся. «Золатка маё, — кажа і абымае мяне за плечы. — Ты мне якраз патрэбны. Паедзеш, даражэнькі мой, у камандзіроўку. Хулігана ты калі блізка бачыў?» «Не, — кажу. — Не даводзілася». «Ну гэта глупства. Неяк разбярэшся. Вось што! Паедзеш на вёску і напішаш артыкул аб барацьбе шырокага насельніцтва з хуліганствам». Мне аж дух заперла. «Даруйце, — кажу, — з прыемнасцю бы паехаў. Здароўе аднак не пазваляе. Сям'я адбірае ўсе сілы. З мяне адной жонкі хапіла б, а тут яшчэ і цёшча. Паслалі б лепш рэдактара судзейскай хронікі». «Не выкручвайся, не выкручвайся. У тым-та і справа, што табе траціць няма чаго, а ў рэдактара судзейскай хронікі трое малых дзяцей. І акрамя гэтага, з усіх працаўнікоў рэдакцыі адзін ты застрахаваны». «Дык я ж, — кажу, — застрахаваўся толькі дзеля прынцыпу. Калі б са мною што здарылася, дык скарыстаю са страхоўкі не я, а жонка».

Тут галоўны раптам спаважнеў. «А ты, Валодзя, пра такую штуку, як змяншэнне штатаў, чуў? — кажа. — Ну дык я табе магу на вушка шапнуць, што і ў нас штат вялікі і кагонекага прыдзецца звольніць. Ну як? Паедзеш?» «Што ж рабіць, — гавару, — прыдзецца паехаць». «Ну вось! Адразу так трэба было. Бачыш, па-добраму і дамовіліся». «Галоўны» выразна павесялеў і звольніў мяне на гэты дзень з працы, каб мог падрыхтавацца да дарогі.

Да цягніка мяне праважалі ўсёй рэдакцыяй. Сябры ў складчыну букет белых хрызантэмаў купілі, а «галоўны» доўга трос мне руку і гаварыў нешта пра ахвяру дзеля агульнага дабра ці штосьці такое. Цягнік рушыў і я застаўся адзін.

Запланаваў я сабе, што заеду спачатку ў знаёмую мне вёску Гаркавічы. Можа якраз якога хулігана сустрэну, а мо' нават барацьбу з ім мне праслядзіць удасца. Хуліганаў я ведаў толькі з газет і фільмаў. Распазнаць гэта стварэнне, кажуць, вельмі проста: валасы ў яго нястрыжаныя, само бруднае, адно вока абавязкова падбітае, увесь час, залажыўшы рукі ў кішэні, па вуліцы ходзіць — шукае каму б гэта морду пабіць, жыве сярод людзей і да іх крыху падобнае — сляпы распазнаў бы.

Глянуў я на сваіх спадарожнікаў. Не! Быццам бы хуліганаў няма. Ля мяне сядзіць пажылая жанчына з дзяўчынкаю, мабыць, унучкаю. Пры акне чацвёра добра апранутых маладых людзей у карты граюць, папяросы кураць. Усе людзі, як людзі. Ну, думаю, навязалі мне задачку. Хуліганы ў сённяшні час — жывёла пэўна ўжо рэдкая, быццам тыя зубры. Калі б іх хоць у якім - небудзь рэзерваце зачынілі. Калі нельга ў Белавежскай пушчы, дык хоць у якой другой. Вядома было б, дзе шукаць, а так паспрабуй знайдзі.

Раптам мая суседка звярнулася да рэшты спадарожнікаў: «Можа б вы, — кажа, — сябры, у купэ курыць пераcталі? Бачыце ж, што дзіця малое сядзіць, і акрамя таго, гэта ж купэ для некурачых». Тут і пачалося. «Зачыні, цётка, ляпу», — гукнуў адзін з іграючых у карты. «Не маеш дзе ўсадзіць носа, дык усадзі між дзвярэй і прышчамі», — парадзіў другі. «Не падабаецца, дык калідор свабодны», — кажа трэці і ўсе пачынаюць рагатаць.

Тут я не вытрымаў і ўмяшаўся: «Калі вам, — кажу, — звяртаюць увагу, маладыя людзі, дык трэба слухаць, а не насміхацца. Жанчына праўду кажа».

«А ты хто такі? — спытаў адзін з іх. — Прадстаўнік Лігі жанчын?» І ўсе зноў зарагаталі.

Я раззлаваўся не на жарты. «Ну, — гавару, — зараз прыдзе праваднік, дык ён вам пакажа».

Што было потым, добра не памятаю. Хтосьці мяне трэснуў па шыі. Хтосьці трэснуў кулаком у бок, хтосьці даў у зубы. Шчасце, што цягнік затрымаўся якраз на маёй станцыі і я, як ракета, выляцеў на перон (у апошнюю хвіліну мяне яшчэ падштурхнулі каленам у зад). Падняўся я неяк, абмацаў рукі, ногі. Нічога. Цэлыя, быццам. Шыя толькі ные. Добры, думаю, пачатак. Каб гэта хоць хуліганы мне па шыі наклалі, было б паўбяды. Меў бы хоць пра што пісаць. А гэта, як на злосць, звычайныя людзі. Сплюнуў я са злосці і паплёўся ў Гаркавічы, да якіх ад станцыі тры кіламетры. Іду сабе памаленьку, шыю чухаю. Вось ужо да першых хат дайшоў.

Гляджу, бегае па вуліцы хлапчук, год гэтак 12, з рагаткі птушак страляе. «Ану, хадзі сюды, — клічу я яго. — Ты гэта што, — кажу, — робіш? Хочаш, каб я цябе за вушы выдраў? А ну давай рагатку!»

Тут тое бесянё як ні разравецца на ўсё горла:

«Тата! Тата! Біць мяне хочуць!»

Гляджу, выбег на вуліцу нейкі чалавек з абломкам жэрдзіны ў руцэ — такі сабе звычайны дзядзька. А я стаю і хлапчука за плячо трымаю. Падскочыў дзядзька да нас і ад разу мяне за грудзі хапае. «Ты што? Вырадак такі, сякі ды гэтакі, — крычыць, — над дзіцём здзеквацца ўздумаў?»

«Тата, ён мне і рагатку паламаць хацеў», — разроўся зноў хлапчук.

«Што? Цацкі дзецям ламаеш? — рассвірэпеў дзядзька. — Ну дык я цябе зараз!»...

Тут ён апусціў жэрдзіну на маю патыліцу.

Рвануўся я з яго рук і даў стракача ўздоўж вуліцы, адно мае пяткі замільгалі. Наўздагон мне паляцеў камень, пушчаны з рагаткі, і трапіў за вуха, набіваючы парадачную гулю. Не гледзячы на боль, я пёр з усіх сіл, пакуль не ўбачыў на адной з хат вывеску «Солтыс».

У солтыса былі госці. На стале красавалася бутэлька водкі, стаяла талерка з нарэзаным скрылькамі салам і другая — з гуркамі. Кругом сядзела чалавек пару мужчын, добра ўжо падвыпіўшых, ды і сам гаспадар, вітаючыся са мною, ледзь не перавярнуў вядра з вадой.

Я прадставіўся. Даведаўшыся, па што я прыехаў, солтыс пагладзеў на мяне здзіўлена: «У нас хуліганы? Ніколі не было і Бог дасць, што і далей не будзе. Пэўна! Здараецца, што хтосьці каму морду паб'е ці шыбы ў вокнах дзе павыбіваюць, ці яблыкі каму абарвуць. Хуліганаў аднак няма. Зроду не бачылі».

Я рашыў ісці напралом. Не вяртацца ж мне з пустымі рукамі ў рэдакцыю «Немагчыма, — кажу — каб у такой вялікай вёсцы нават аднаго, хоць абыякога хулігана не было. Вы што, газет не чытаеце? Выразна ж пішуць, што хуліганы ў нас ёсць і што з імі ўсюды змагаюцца?»

Солтыс доўга чухаў патыліцу. «Калі ў газетах так пішуць, дык, значыць, ёсць, — кажа, — там лепей ведаюць. Толькі як жа ж іх, чортавых дзяцей, выявіць. Бо змагацца з імі — гэта ўжо глупства. Гляньце толькі на нашага каваля. Ён сам траім дасць рады». Тут ён паказаў пальцам на седзячага за сталом здаравеннага дзядзьку. «Ну, нічога. Можа супольнымі сіламі хоць аднаго знойдзем, — заявіў ён нарошце. — А пакуль вып'ем па чарцы». Выпілі!

«А можа бы Сымоніхі сынок падыйшоў? Ён жа ўсе шыбы ў Доме культуры павыбіваў ды майму Васілю скулу звярнуў», — нясмела адазваўся адзін з гасцей.

«Ты што, ачумеў, — абурана закрычалі другія. З Сымоніхай сварыцца хочаш? Дзе ж ты тады, дурань, у безалькагольныя дні водку купляць будзеш? Яна ж адна ў нас нелегальна ёю гандлюе».

Другі кандыдат не падыйшоў, бо яго бацька мае знаёмствы ў павеце. Трэці аказаўся сваяком аднаго з прысутных. Адным словам, бяда. Выпілі яшчэ па чарцы!

«Знаеце вы што? — заявіў раптам хтосьці. — Давайце пройдземся па вёсцы. Мо' якраз на якогасьці трапім». Усе ахвотна згадзіліся і не паспеў я агляну́цца, як хата апусцела. Няма чаго чакаць, думаю, што ж з імі п'янымі гаварыць? Трэба вяртацца, а то чаго добрага да цягніка спазнюся.

Не паспеў я выбрацца з вёскі, калі чую за плячыма: «Ёсць! Ёсць! Лаві яго, браткі! Лупцуй! Гэта той самы, што на дзяцей нападае». Тут на мяне накінулася чалавек з дзесяць, у тым ліку і вясковы каваль.

«Лупі! Лупі яго! — крычаў хтосьці. — Лупі, каб другім адхацелася. Каб знаді, што няма хуліганам месца ў нашай вёсцы». Я памалу пачынаў траціць прытомнасць. Быццам бы з таго свету чуў я яшчэ голас солтыса, які прыгаварваў: «Так яго міленькага! Так яго родненькага! Садані пад дыхала. Няхай улады пераканаюцца, што мы ў курсе спраў і што ўмеем праводзіць актыўную барацьбу з хуліганствам». «Ой, маманькі! — крыкнуў раптам хтосьці — Гэта ж той рэдактар». Тут я страціў прытомнасць.

Ачнуўся я ў гарадской бальніцы, дзе мне прыйшлося праляжаць дзён дзесяць.

У рэдакцыі мяне сустрэлі варожа. За спіною шапталі: «Хуліган. Ён дзяцей кідаецца». «Галоўны», буркнуўшы пад носам, што ён чагосьці там такога ад мяне не спадзяваўся, загадаў з браку другіх хуліганаў напісаць артыкул аб сабе самым і прыгразіў, што ў рэдакцыі ён хуліганства не сцерпіць.

Адна страхавая каса мяне зразумела і выплаціла чатыры тысячы адшкадавання.

Пацяшае мяне толькі тое, што з таго часу цёшча стала больш людскаю. Бывае, падыдзе, пагладзіць мяне па галаве і кажа: «Вось падлечышся, зяценьку мой любы, паедзіш яшчэ раз у камандзіроўку, страхавая каса ізноў адшкадаванне заплаціць, і хопіць нам грошыкаў на тэлевізар».

ЮРКА ГЕНІЎШ

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ



**У Белградскім парку (справа налева) Прынчып, Грабец і Цыгановіч, іх сувязны, з начальнікам сербскай ваеннай разведкі падпалкоўнікам Дзімітрыевічам, шэфам «Чрнай руки».**

# ДВА ВЫСТРАЛЫ ГАЎРЫЛЫ ПРЫНЧЫПА

Пяцьдзесят год таму назад берлінскія газеты надрукавалі афіцыйнае камюніке, што ў Канапішт выязджае Вільгельм II у суправаджэнні адмірала Альфрэда Цірпіца па запрашэнню эрцгерцага Франца Фердынанда, аўстрыйскага намесніка трона, каб наведаць там цудоўную плантацыю руж.

Газеты Вены, Парыжа, Будапешта, Пецярбурга і іншых еўрапейскіх сталіц пісалі, што гэты візіт зусім не гасціннага характару, а палітычнага. Удзел у візіце адмірала Цірпіца, гэтага мазга германскай імперыялістычнай палітыкі, сведчыла само за сябе.

### «ЧРНА РУКА»

Агароднік князеўскай плантацыі руж у Канапішце Петэр Власковіч пачуў лёгкі стук па шыбе. У шчылінцы тырчэў белы лісток паперы, на якім было напісана: «Будзь заўсёды паблізу сіпаў...»

У гэты час на кватэру начальніка разведачнага аддзела сербскага генеральнага штаба ў Белградзе падпалкоўніка Драгуціна Дзімітрыевіча пастукаўся вечарам высокі мужчына ў цывільным гарнітуры. Два хуткія ўдары адзін за другім, перарыў і тры ўдары. Урэшце дзверы адчыніліся і на парозе з'явіўся гаспадар кватэры.

— Вітаю вас, маёр Танкошыч!

Двое мужчын, што пачалі сяброўскую размову, належылі да выдатных асабістасцей у сербскай арміі. Ён і маёр з'яўляліся галоўнымі кіраўнікамі тайнай вайсковай арганізацыі «Чрна рука», праўдзівая назва якой — «Уединение или смрт» (Уз'яднанне або смерць). У арганізацыі жалезная дысцыпліна, у ёй людзі гатовыя на ўсе! «Чрнай руки» баяліся ўсе — генералы, міністры, а нават сам прэм'ер Сербіі, Пашыч. «Чрна рука» дасягала далёка. Уплыў падпалкоўніка Драгуціна Дзімітрыевіча быў тым большы, што той знаходзіўся у блізкіх знаёмствах з рускім ваенным аташэ ў Белградзе, палкоўнікам Артаманавым.

— Мы яшчэ не падрыхтаваны да вайны, — гаварыў Дзімітрыевіч.

— Сербія, палкоўнік, атрымала ад цара гарантыю ў дапамозе, — сказаў аташэ.

— Пакуль дапамога прыдзе, сітуацыя маёй дзяржавы можа быць надтэ цяжкай, — прагаварыў шэф «Чрнай руки».

— У сувязі з гэтым, якое бачыце выйсце, палкоўнік?

Драгуцін Дзімітрыевіч прадставіў аташэ планы «Чрнай руки». Сказаў, што пастаноўлена проста арганізаваць замах на эрцгерцага Франца Фердынанда, **гэтага вялікага ворага незалежнай Сербіі.**

— Пане палкоўнік, — гаварыў Артаманаў, — Сербія з'яўляецца суверэннай і незалежнай краінай. Вы самі, сербы, ведаеце найлепш, які ваш абавязак у гэтых цяжкіх і неспакойных часах. Вашага рашэння мы не маем права ані падтрымаць, ані не прызнаваць...

Дзімітрыевіч зразумеў...

### У КАНАПІШЦЕ

Высокія госці — імператар Вільгельм II, вялікі адмірал Цірпіц у суправаджэнні аўстрыйскай князёўскай пары — пакінулі поле руж і накіраваліся ў бок альтаны, перад якой шумеў чароўны фантан.

— Прырода не прадказвае хмар, што збіраюцца на гарызонце Еўропы, — сказаў імператар. — Ці Ваша Імператарская Вялікасць збіраецца пабываць на ваенных манеўрах у Босніі? — запытаў ён аўстрыйскага намесніка трона.

У альтану ўвайшоў Власковіч з пукам руж на руцэ і пачаў размяшчаць іх па вазах. Ніхто не звярнуў на яго ўвагі.

— Хацела б, каб урачыстасць прыезду адбылася 28 чэрвеня, — шчабятала княгіня.

— Чаму? — спытаў імператар.

— Княгіня дасканала ведае гісторыю Сербіі, — адказаў за жонку эрцгерцаг Франц Фердынанд. — На гэты дзень прыпадае гадавіна бітвы на Косавым Полі, дзе туркі разграмілі сербаў...

Власковіч выйшаў з альтаны і павольным крокам накіраваўся да плантацыі руж. Ніхто яго не заўважыў.

### ЗАМАХ

Сталіца Босніі, горад Сараева, рыхтаваўся да прыёму высокіх гасцей, — аўстрыйскай князёўскай пары.

Мінуты здаваліся вечнасцю. Прынчып сціснуў у кішэні рэвальвер. Вуліцай ехала адкрытая машына эрцгерцага, побач з ім сядзела яго жонка, княгіня Софія, чэшка па паходжанню. Мела на сабе белае плацце.

Прынчып выбег з-за балюстрады і выхапіў рэвальвер у той момант, калі машына праязджала каля яго. Запозна! Але што гэта? Шафёр прытармазіў. Аказалася, памыліўся і ўехаў не ў тую вуліцу. Гэты момант хутка выкарыстаў Прынчып. Скочыў да машыны — пачуліся два выстралы.

Эрцгерцаг Франц Фердынанд і яго жонка не жылі.

Замах быў добра замаскіраваны. Ані Прынчып, ані яго памочнікі нават і не здагадваліся, што кіравала імі «Чрна рука». Ілліча засудзілі на смерць, а Прынчыпа і Грабца, як няпоўналетніх — на 25 год цяжкой турмы. Памерлі яны яшчэ перад канцом I вайны, у крэпасці Тэрэзін у Чэхіі.

Вось так адбыўся замах, які павінен быў адвярнуць на некаторы час ад Сербіі вайну. Сталася інакш. Забушавала па цэлай Еўропе I сусветная вайны.

(а-ся)



**Князеўская пара пакідае сараеўскую ратушу пасля заканчэння манеўраў аўстрыйскіх войск у Босніі. У пяць мінут потым палі ад куль Прынчыпа.**

## ШТО ДЗЕ ЯК



### Увага, сухоты

Туберкулёз, званы сухотамі, усё яшчэ падрэзвае жыццё мільёнам людзей у свеце. Пяць год таму назад туніскія лекары сабраліся ў Міністэрстве аховы здароўя, каб распрацаваць план рашучага наступлення на туберкулёз. Для падрыхтоўкі гэтакай кампаніі ўрад Туніса і Сусветная арганізацыя аховы здароўя правялі пробную медыкаментозную прафілактыку туберкулёзу ў Джэбель — Ламары — пасёлку на ўскраіне горада Туніс. 25-тысячнае насельніцтва таго пасёлка пражывае ў гліняных хацінах. Працэнт туніскіх туберкулёзнікаў у дзесяць разоў вышэйшы, чым у Еўропе!

На здымку бачым фрагмент пасёлка Джэбель — Ламары.

(а-ся)

### ЦІ БАІЦЦА СЛОН МОСЬКІ?

Здаўна заолагаў усяго свету займала адна загадка ў жыцці сланоў. Гэтыя веліканы як агню баяцца... мышэй, вожыкаў і марскіх свінак. Наконт гэтай дзіўнай з'явы выказваліся розныя меркаванні, але афіцыяльнай была прызнана думка, што сланы баяцца пакалоць сабе ногі.

Справа ў тым, што скура на падэшвах ног у сланоў вельмі мяккая і балюча рэагуе на любы востры прадмет, што трапіў слану пад ногі.

Але нядаўна высветлілася, што гэта не зусім так. Доследы паказалі, што слон баіцца толькі тых маленькіх жывёлін, у якіх ён не бачыць... ног!

Слон можа спалохацца не толькі моські, але нават і мячыка, калі той коціцца проста на яго.

### Паперу „лечаць" вітамінамі

Аказваецца, вітаміны карысныя не толькі жывым арганізмам. Цяпер імі лечаць старадаўнія рукапісы і паперу. Такая працэдура спыняе разбурэнне паперы. Адкрыў гэты спосаб лячэння паперы італьянскі біяхімік Марыо Пінцуці. Ён карыстаецца ім пры рэстаўрацыі старадаўніх кніг і рукапісаў.

## Юрый Долбд-Міхайлік
## БАРОН ГОЛЬДРЫНГ
### Пасля вайны

...Вечарам таго ж дня, калі ўжо добра сцямнела, Фрэда і Гары пасадзілі ў кузаў крытай машыны і кудысці павезлі. Побач з Фрэдам сядзелі два канваіры. У адным з іх ён пазнаў байца, якога ўдарыў наском чаравіка ў жывот.

Спачатку машына доўга падскоквала на выбоінах грунтовага шляху, потым роўна пакацілася па асфальту. Ехалі гадзіны з дзве. У цемнаце Фрэд не мог глянуць на стрэлкі гадзінніка, ды ён, відаць, у час бойкі і сапсаваўся.

Нарэшце, пасля крутога павароту, машына спынілася.

— Выходзьце! — прагучала каманда на нямецкай мове.

Канваіры спрытна адкінулі брызентавы верх, і Фрэд саскочыў на зямлю.

Прызнацца, ён не думаў, што яго адразу прывязуць іменна сюды. Бо самалётам жа яны ляцелі больш як гадзіну. Значыць, ён проста кружыў, і скінулі іх не так ужо далёка ад школы.

Так, гэта была школа! Фрэд адразу пазнаў двор,

62

з якога пазаўчора выехаў, і ў той жа момант убачыў Нунке і Шлітсена, якія ішлі яму насустрач.

Выцягнуўшыся і ўзяўшы пад казырск, ён запытаў:

— Далажыць?

— Потым, потым, Фрэд! Лепш азірніцеся назад!

І Нунке і Шлітсен чагосьці зарагаталі, потым галасна і непрыстойна вылаяліся.

Ля другой машыны, скамянелы пад поглядамі начальніка, стаяў Гары...

*

На другі дзень ён прачнуўся позна. Была нядзеля, і сігнал пабудкі, што звычайна галасіста разносіўся па ўсёй тэрыторыі школы, сёння не прагучаў. Ды і стаміўся Фрэд за ўчарашні дзень так, што ўсё роўна не пачуў бы яго.

Снеданне ўжо чакала на стале. Напэўна, у гонар свята побач з талеркамі і закрытымі каструлькамі, стаяў графінчык з каньяком. Глянуўшы на гэты «нацюрморт», Фрэд адчуў востры голад. Ён жа на працягу мінулага дня нічога не еў, прыехалі ў школу апоўначы — ніхто і не падумаў вячэраць.

Хуценька зрабіўшы некалькі гімнастычных практыкаванняў і прыняўшы душ, у адной піжаме Фрэд сеў за стол і з асалодай агледзеў стравы. Ого, як сёння частуюць! Нават для яго апетыту замнога: селядзец, вараныя яйкі, вяндліна, курыная ножка з рысавым гарнірам... І, як звычайна, тэрмас з нязменнай чорнай кавай.

63

Ды толькі паспеў Фрэд узяцца за відэлец, як у дзверы пастукалі. Навіна! Іх жа дагэтуль заўсёды замыкалі... А цяпер не чутна было бразгання замка. Дзверы проста адчыніліся, і на парозе з'явілася салідная постаць генерала Воранава.

— Вы, малады чалавек, вядома, здзіўлены, што я прыйшоў д[illegible]с у нядзелю ды яшчэ і без запрашэння? Але [illegible]э больш, здзівіцеся, калі ўбачыце вось гэта!

Воранаў дастаў з кішэні штаноў загорнутую ў паперу пляшку, не спяшаючыся, разгарнуў яе і ўрачыста, быццам ён робіць надзвычай прыемны падарунак гаспадару, паставіў на стол. Паставіў так, каб Фрэд адразу змог убачыць этыкетку.

— «Руская Смірноўская гарэлка», — уголас прачытаў Фрэд і здзіўлена глянуў на Воранава. — Штосьці не чуў пра такую!

— Не, не, вы прачытайце напісанае дробным шрыфтам! — настойваў Воранаў, здаволены прызнаннем Фрэда, што той нават не чуў пра існаванне такой гарэлкі.

— «Пастаўшчык двара Яго Імператарскай Вялікасці», — чытаў далей Фрэд.

64

